

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 8 (жнівень), 2013

# Мяжа

## У Бярозаўскім раёне адбыўся сход сяльчан, нязгодных з ліквідацыяй свіней

(Старонка 10)

# ЗЬМЕСТ

## 2 гады за кратамі. Напішы палітвязьню.




5 жніўня берасьцейскія праваабаронцы зладзілі і правялі інфармацыйную акцыю ў падтрымку кіраўніка Праваабарончага цэнтра “Вясна”, віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека і пісьменніка Алеся Бяляцкага, які ўжо 2 гады правёў за кратамі па палітычна-матываваным абвінавачваньні. Берасьцейцам былі ўручаныя інфармацыйныя паштоўкі аб Алесю Бяляцкім і паштоўка для палітзняволеных.

## У Брэсце ўлады забаранілі пікет у падтрымку Бяляцкага

Як паведаміў заяўнік акцыі праваабаронца Уладзімір Вялічкін, ён запланаваў адзіночнае пікетаванне 4 жніўня з 13.00 да 15.00 у вызначаным гарвыканкамам для такіх мерапрыемстваў месцы: каля сцэны ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Мэта пікета — выказаць пратэст супраць незаконнага, паводле яго меркавання, прысуду, вынесенага віцэ-прэзідэнту Міжнароднай

федэрацыі правоў чалавека, а таксама прыцягнуць увагу да праблемы палітзняволеных у Беларусі.

"Брэсцкі гарвыканкам забараніў пікетаванне з матывіроўкай, што я не заключыў дагаворы з органамі ўнутраных спраў, установай аховы здароўя і камунальным прадпрыемствам, — дапоўніў Вялічкін. — Я лічу такія патрабаванні да пікета, у якім удзельнічае адзін чалавек, празмернымі. Таму мяркую, што адмова ў правядзенні акцыі надуманая".

Н думку праваабаронцы, улады проста не жадаюць прыцягваць увагу да праблем парушэння правоў чалавека ў Беларусі. Адмову ў правядзенні гэтай акцыі ён мае намер абскардзіць у судзе.

Вялічкін нагадаў, што раней падаваў заяўкі на правядзенне двух пікетаў у падтрымку Бяляцкага: у 2011 і ў 2012 гадах. Абедзве акцыі таксама былі забароненыя Брэсцкім гарвыканкамам.

*nn.by/?c=ar&i=113496*

## Эўракамісія патрабуе вызваліць і рэабілітаваць усіх палітвязьняў

Прадстаўнік эўракамісара Штэфана Фюле Пітэр Стано адзначыў у інтэрвію Радыё Свабода, што Эўракамісія прыняла да ўвагі вызваленьне Зьмітра Дашкевіча і чакае вызваленьня іншых палітвязьняў.

«Мы прынялі да ўвагі факт вызваленьня Зьмітра Дашкевіча. І я магу толькі сказаць, што яго вырак быў несправядлівы і непрымальны. Яго прысуд быў палітычна матываваны, і вельмі шкада, што ён быў адпраўлены ў турму і правёў там увесь тэрмін зьняволеньня. Мы настойваем, што Беларусь павінна неадкладна вызваліць усіх палітычных вязьняў і рэабілітаваць іх, незалежна ад працягласці тэрмінаў іх зьняволеньня».

*www.svaboda.org/content/article/25088958.html*

## На волю выйшаў палітвязень Аляксандр Францкевіч

Пасля вызвалення за ім будзе ўсталяваны шасцімесячны

міліцэйскі нагляд.

Нагадаем, што Аляксандр Францкевіч быў асуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі па так званай “справе анархістаў”. Ён адбываў пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі “Воўчыя норы”.

Аляксандр нарадзіўся 6 траўня 1990 года ў Наваполацку. Пасля сканчэння ліцэю працаваў праграмістам. Пазней пераехаў жыць і працаваць у Мінск. Далучыўся да руху анархістаў, піша "Наша ніва".

На мінулым тыдні на волю выйшаў палітвязень Зміцер Дашкевіч, лідар незарэгістраванага ў Беларусі "Маладога фронту". За кратамі ён знаходзіўся ад снежня 2010 года.

***

У інтэрв'ю Радыё Свабода Францкевіч кажа, што ўвесь час адчуваў за кратамі ціск, але пад такім жа ціскам былі і іншыя зняволеныя. "Калі чалавек моцны, не важна па якіх прычынах ён сядзіць, то ён вытрымае", — кажа Аляксандр. "Мае погляды не змяніліся, а толькі ўмацаваліся", — дадае ён.

Нагадаем, Аляксандр Францкевіч — праграміст. У яго планах аднавіцца на ранейшай працы. “Да кампутара не дакранаўся тры гады, але калі бачыў яго ў турэмшчыкаў, ажно “рукі часаліся”, — прызнаецца ён.

Пад наглядам Францкевіч будзе жыць у Наваполацку, але спадзяецца перавесціся ў Мінск.

*euroradio.fm/palitvyazen-alyaksandr-franckevich-vyydze-na-volyu-3-verasnya*

## Брэсцкі рабочы адсудзіў у прадпрыемства за траўму 35 мільёнаў рублёў

У гэтым яму дапамог незалежны прафсаюз.

Пра рашэнне суда на карысць былога працаўніка Галаўнога спецыялізаванага канструктарскага бюро Уладзіміра Саўлука паведаміла старшыня Брэсцкай рэгіянальнай арганізацыі прафсаюза Работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці Зінаіда Міхнюк:

"Каля года цягнуліся цяжбы. Суд Ленінскага раёна горада

Брэста прысудзіў, каб ГСКБ выплаціла Уладзіміру Саўлуку, сябру нашага прафсаюза, 35 мільёнаў рублёў маральнага адшкадавання. За гэтым стаіць складаная праца прававога інспектара па Брэсцкай вобласці Уладзіміра Малея".

Першы раз суд адмовіў Саўлуку ў іску. Абласны суд накіраваў справу на новы разгляд. Былі прызначаныя судовыя экспертызы, якія паказалі на вытворчы характар траўмы, сказала Зінаіда Міхнюк.

Нагадаем, рабочаму ў 2007 годзе станком раздушыла правую ступню. Яго пераканалі сказаць, што нагу траўмаваў дома падчас рамонту аўтамабіля. Пасля таго, як траціну ступні ампутавалі, Уладзімір Саўлук мусіў перайсці на больш лёгкую працу. Яму стала не хапаць грошай на лекі, і ён звярнуўся па дапамогу ў прафсаюз РЭП. Пазоў ён падаваў на 70 мільёнаў рублёў, але суд падтрымаў толькі палову гэтай сумы.

*euroradio.fm/brescki-rabochy-adsudziu-u-pradpryemstva-za-traumu-35-milyonau-rublyou*

## Суд не задаволіў касацыйную скаргу Віктара Сырыцы



Суддзя Наталля Сурма не знайшла падставаў для адмены штрафу ў 2 мільёны. Штраф Віктар Сырыца атрымаў у судзе Баранавіцкага раёна за арганізацыю несанкцыянаванага мерапрыемства, якога насамрэч не было.

Па словах Віктара Сырыцы, уражанне ад судовага працэсу проста жахлівае. Рашэнне суда было падрыхтавана загадзя. Яго суддзя зачытала адразу пасля выступу Сырыцы і агалошвання прадстаўленых дакументаў:

- Усё ж такі нейкая надзея была, але за апошнія 20-ць гадоў такога не было, каб Берасцейскі суд адмяніў рашэнне Баранавіцкага суда. У мяне вельмі моцныя аргументы, але суд абапіраецца толькі на паказанні маёра Куляшова, супрацоўніка Баранавіцкага раённага аддзела ўнутраных спраў. Суд зусім не прыняў да ўвагі акт, які падпісалі дзевяць чалавек.

Праваабаронца Уладзімір Вялічкін назваў пакаранне Сырыцы правакацыяй уладаў, якая накіравана на застрашванне грамадскасці.

Віктар Сырыца быў абвінавачаны ўладамі і пакараны судом Баранавіцкага раёна за арганізацыю святкавання 150-х угодкаў з дня бітвы касінераў Каліноўскага пад Мілавідамі.

Рашэнне ён будзе абскарджваць у вышэйшых судовых інстанцыях. Калі скарга не будзе задаволена ў Беларусі, то Сырыца мае намер звярнуцца ў ААН.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=17242#.UiT44ue6vxh*

## Праваабаронца падаў скаргу ў суд

Праваабаронца Дзяніс Турчаняк паскардзіўся на правядзенне будаўнічых работ на тэрыторыі Берасцейскай крэпасці. Папярэдняе паседжанне па гэтай справе пройдзе ўжо на гэтым тыдні ў судзе Ленінскага раёна Берасця. Падрабязней кажа сам Дзяніс.

– Першае судовае паседжанне, якое будзе папярэднім, прызначана на 16 жніўня. У папярэднім судовым паседжанні мы разлічваем падаць некалькі хадайніцтваў, выклікаць некалькіх сведак, якіх апытаць на судовым паседжанні. Мы лічым, што некаторыя людзі ў стане даць нейкія тлумачэнні.

Недалёк крэпасці вядзецца будаўніцтва маста праз раку Мухавец. Праваабаронца ўглядае ў гэтым парушэнне заканадаўства. Будаўніцтва на тэрыторыі гісторыка-культурнай каштоўнасці, якім з’яўляецца крэпасць, павінна праводзіцца з ўдзелам грамадскага абмеркавання, лічыць Дзяніс Турчаняк.

*www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=16773#.Ugvl6ue6vxh*

## У Брэсце зноў разглядалі справу грамадскага актывіста Віталя Каўша

У аўторак у Брэсцкім раённым судзе прайшло чарговае паседжанне.

Нагадаем, 29-гадовы грамадскі актывіст амаль год як знаходзіцца за кратамі. За спрыянне незаконнай міграцыі яго асудзілі на 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Брэсцкі абласны суд скасаваў прысуд. Цяпер справа пераглядаецца іншым складам суда.

13 жніўня разглядаліся банкаўскія дакументы за подпісам Віталя Каўша, тэлефанаванні, якія ён адкрыта рабіў са свайго мабільнага тэлефона з ліпеня па жнівень 2012 года. Таксама суд заслухаў паказанні дваіх беларускіх грамадзянаў індыйскага паходжання, якія былі перакладчыкамі ў справе "індусаў-канатаходцаў" цераз мяжу. Выступілі і іншыя сведкі: як з боку абвінавачання, так і з боку абароны.

Суд адхіліў хадайніцтва адваката Каўша аб праглядзе відэаролікаў з інтэрнэту, на якіх два з васьмі знятых з каната на беларуска-польскай мяжы ў траўні 2012 года індусаў сведчаць, што ў Брэсце іх прымусілі абгаварыць незнаёмых людзей.

Вось што гаворыць праваабаронца Раман Кісляк:

"З кожным днём тыя недакладнасці, на якія ўказваў Віталь Коўш, пацвярджаюцца паказаннямі сведкаў, перакладчыкаў, панятых. На мой погляд, відавочна, што доказы віны былі здабытыя ў ходзе следства з яўнымі парушэннямі закона".

Наступнае паседжанне прызначанае на 10-ю гадзіну 15 жніўня.

*euroradio.fm/u-bresce-znou-razglyadali-spravu-gramadskaga-aktyvista-vitalya-kausha*

## Брэсцкага актывіста Віталя Каўша пакінулі пад вартай да верасня

Суд Брэсцкага раёна пагадзіўся з меркаваннем пракурора і не задаволіў хадайніцтва аб змене меры стрымання пад падпіску аб нявыездзе.

Прычына — “абвінавачанне ў цяжкім злачынстве, тэрмін пакарання за якое перавышае 3 гады”. Іншыя хадайніцтвы абароны былі задаволеныя.

Нагадаем, 29-гадовы грамадскі актывіст Віталь Коўш знаходзіцца ў следчым ізалятары з 1 верасня мінулага года. Ён быў асуджаны на 4 гады калоніі з канфіскацыяй маёмасці за тое, што нібыта ў траўні 2012 года дапамог васьмі індусам у спробе прайсці па канаце над беларуска-польскай мяжой. Брэсцкі абласны суд скасаваў прысуд і справу цяпер пераглядае іншы склад суда.

Наступнае пасяджэнне прызначанае на 14.30 4 верасня. Суд мае заслухаць вынікі працы па ўсіх хадайніцтвах абароны.

*euroradio.by/bresckaga-aktyvista-vitalya-kausha-pakinuli-pad-vartay-da-verasnya*

## Сьледчы камітэт: пэнсіянэраў у Пінску штурхалі законна

Сьледчыя апраўдалі грубае выкарыстаньне міліцыяй сілы супраць пэнсіянэраў, якія гандлявалі на рынку ў Пінску.

Сьледчы камітэт Рэспублікі Беларусь па Берасьцейскай вобласьці апублікаваў вынікі праверкі інцыдэнту ў Пінску 7 ліпеня каля міні-кірмашу «Заходні», калі міліцыянты штурхалі і сілай цягнулі ў машыны пэнсіянэраў.

«У выніку праверкі было ўстаноўлена, што супрацоўнікі РАУС дзейнічалі ў рамках беларускага заканадаўства. У той жа час дзеяньні затрыманых на рынку грамадзян зьяўляюцца адміністрацыйным правапарушэньнем. Згодна з арт. 12.17 ч. 8 „Парушэньне правілаў гандлю“ і 23.3 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэньнях „Умяшальніцтва ў разбор справы аб адміністрацыйным правапарушэньні“ яны заплацяць штраф», — цытуе спарваздачу берасьцейскага сьледчага камітэту «Вячэрні Брэст».

Праверку праводзіў Пінскі міжраённы аддзел Сьледчага камітэту.

7 ліпеня ў Пінску міліцыянты забіралі гандляроў у аўтамабілі,

тыя супрацiўляліся. Людзі здымалі гэта на відэа. Інцыдэнт выклікаў хвалю абурэньня. За тыдзень відэа прагледзела каля ста тысяч чалавек.

На відэа бачна, як міліцыянты жорстка заштурхоўваюць пэнсіянэраў-гандляроў у аўтамабілі, нават закідваюць сталую жанчыну дагары нагамі.

*www.svaboda.org/content/article/25087851.html*

## У Бярозаўскім раёне адбыўся сход сяльчан, нязгодных з ліквідацыяй свіней



Каля сельвыканкама ў вёсцы Сялец учора адбыўся народны сход, арганізаваны вяскоўцамі, на якім прысутнічала 150 чалавек. З запрошанага кіраўніцтва былі старшыня Сялецкага сельвыканкама Уладзімір Хілько, намеснік старшыні Бярозаўскага райвыканкама Данута Гардзеева, выконваючы абавязкі сельгасупраўлення Аляксей Жоўцікаў і галоўны ветурач раёна Генадзь Белавешкін. Запрошаныя адпаведныя супрацоўнікі з Брэсцкай вобласці і работнікі пракуратуры раёна і вобласці запрашэнне праігнаравалі.

Галоўная мэта сходу - дабіцца адмены рашэння Бярозаўскага райвыканкама ад 5 жніўня аб ліквідацыі свіней да 15 жніўня з прыватных падворкаў у 17 вёсках, якія трапілі ў 5-кіламетровую зону бліз невялікіх фермаў вёсак Сашыца і Хойнікі, або дабіцца адтэрміноўкі рашэння для таго, каб мець магчымасць абскардзіць у вышэйшых інстанцыях. Сяльчане спасылаюцца на тое, што раён не ўваходзіць у 40-кіламетровую буферную зону ад эпіцэнтра эпідэміі,

а фермы маюць малое пагалоўе і не адпавядаюць санітарна-гігіенічным патрабаванням фермаў.

Трэба адзначыць, што падтрымкі ў прысутных чыноўнікаў людзі не знайшлі. Тыя патрабавалі падпарадкавацца рашэнню, а потым ужо скардзіцца. Паабяцалі данесці кіраўніцтву раёна патрабаванні людзей, якія пазначаны і ў пратаколе сходу.

Людзі рашуча настроены абараняць сваю ўласнасць, бо для большасці свінагадоўля дапамагае выжыць пры пенсіі або заробку ў паўтары мільёны рублёў.

Данута Гардзеева запэўніла, што кампенсацыя крыху больш за 18 тысяч рублёў за кілаграм і 600 тыс. рублёў за галаву да 30 кілаграм будзе выдадзена з бюджэта на другі дзень пасля здачы. Але людзі не паверылі, паколькі ў акце аб утылізацыі пункт аплаты адсутнічае, і яго адмовіліся туды ўнесці нават па патрабаванню людзей. Аляксей Жоўцікаў сказаў, што адказных за аплату няма.

Людзі настроены рашуча змагацца за сваю прыватную ўласнасць. Яны збіраюцца абскарджваць Пастанову райвыканкама ў аблвыканкаме, пракуратуры і судах.

*spring96.org/be/news/65184*

## Брэст: скарга незалежнай журналісткі адхілена

Старшыня Брэсцкага абласнога суда Тамара Сучок не знайшла парушэнняў у ранейшых судовых рашэннях па справе Міланы Харытонавай, якая спрабавала абараніць свае гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю.

Адказчыкам па справе аб знявазе незалежнай журналісткі з’яўляецца карэспандэнт газеты “Брестский вестник” Уладзімір Міневіч (заснавальнікам выдання з’яўляецца мясцовы гарвыканкам). У сакавіку мінулага году Міневіч змясціў зневажальныя каментары ў дачыненні да Харытонавай на адным з брэсцкіх інтэрнэт-парталаў.

Аднак ні раённы, ні абласны суд не прынялі да ўвагі ніводзін з яе аргументаў. У прыватнасці, журналістка спрабавала давесці,

што лінгвістычная экспертыза была даручана асобе, якая не мае адпаведнай ліцэнзіі і досведу. Акрамя таго, экспертыза была прызначаная толькі ў пытаннях наконт знявагі і не тычылася гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі, як таго патрабавала ў сваёй заяве Харытонава.

Аднак у сваім адказе старшыня Брэсцкага абласнога суда паведамляе, што няма падставаў дзеля таго, каб гэтую справу варта было накіроўваць на новы разгляд. Тамара Сучок таксама заўважае, што ранейшыя судовыя інстанцыі абгрунтавана адмовілі Мілане Харытонавай у спагнанні з адказчыка кампенсацыі нанесенай маральнай шкоды.

*spring96.org/be/news/65181*

## «Граніт» працягвае хаваць НЗ

Кіраўніцтва прадпрыемства працягвае хаваць няшчасныя выпадкі на вытворчасці, маскіруючы іх пад бытавыя траўмы.

Пра гэта сайту charter97.org паведаміў супрацоўнік РУВП «Граніт».

«Пазаўчора на пятай лініі нашага прадпрыемства перакуліўся БелАЗ. Кіроўца сур'ёзна не пацярпеў і атрымаў невялікія сінякі і ўдары, але траўму замаскіравалі пад бытавую. А ўжо ўчора ў начную змену слесару аўтатранспартнага парку «Граніту» на нагу ўпала балванка і раздрабіла пальцы. Яго, як гэта ўжо было, павезлі на «хуткай», а пасля перасадзілі ў грамадзянскі аўтамабіль. Перад гэтым яго ўгаварылі заявіць, што траўма атрыманая ў быту», - падкрэсліў рабочы.

Нагадаем, нядаўна сайт charter97.org паведамляў пра тое, што рабочых «Граніту», якія атрымалі вытворчыя траўмы, кіраўніцтва прадпрыемства прымушае падпісвацца пад тым, што яны атрыманыя ў бытавых умовах.

Варта адзначыць, што на прадпрыемствах Беларусі спробы начальства схаваць вытворчыя траўмы не з'яўляюцца рэдкасцю.

*charter97.org/be/news/2013/8/21/74289/*

## Пінскія прадпрымальнікі дэмантуюць аўтобусныя прыпынкі

Раней нагляд за станам і добраўпарадкаваннем аўтобусных прыпынкаў у горадзе быў за мясцовымі прадпрымальнікамі.

А цяпер гэтая ноша кладзецца на плечы ЖКГ. Як паведамляе тэлеканал "Варяг", Пінскі гарвыканкам не працягнуў арэнду на зямельныя ўчасткі пад аўтобуснымі прыпынкамі для гандлёвых шапікаў некаторым прыватным прадпрымальнікам. Таму бізнэсоўцы пачалі разбіраць свае металічныя канструкцыі і тратуарную плітку, якую паклалі на арандаванай тэрыторыі.

Ад непрадуманых рашэнняў чыноўнікаў церпяць простыя пінчукі: яны вымушаныя чакаць транспарт у любое надвор'е пад адкрытым небам. Людзі кажуць, што капітальныя і вытрыманыя ў адным стылі навесы аўтобусных прыпынкаў можна было выкупіць у былых гаспадароў, а не рабіць двайную працу, выдаткоўваючы значна большыя грошы.

У сваю чаргу, мясцовыя ўлады лічаць, што прадпрымальнікі паступаюць несумленна і намерана ствараюць нязручнасці пасажырам аўтобусаў.

*euroradio.fm/pinskiya-pradprymalniki-demantuyuc-autobusnyya-prypynki*

## Статкевіч страціў прытомнасць у камеры

Пра гэта паведаміла жонка палітвязня Марына Адамовіч.

Марына Адамовіч напісала на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку», што палітвязню Мікалаю Статкевічу ў санчастцы калоніі далі невядомыя прэпараты, ад якіх яго самаадчуванне пагоршылася.

«Мікалая амаль прымусова завялі ў суботу ўвечары ў санчастку, дзе «выявілі» ў яго падвышаны ціск (на Статкевічу танометры правяраюць). Пасля «дапамогі» яму стала горш, і на наступны дзень, калі ён упаў, дапамагаць яму не спяшаліся цягам 20 хвілін, хоць сусед увесь час барабаніў у дзверы.

На наступны дзень канфіскавалі яго ліст да мяне... Чаму? Хацелі, каб пра гэта стала вядома як мага пазней? Нешта яшчэ планавалі? Спяшаліся? Дарэчы, ужо і наступны ліст павінен дайсці, але яго няма...», - паведаміла

*charter97.org/be/news/2013/8/15/74001/*

# Знойдзеная магіла кіраўніка беларускай антысавецкай партызанкі 1920-х

## Атаман, дыверсант, настаўнік



Цімох Хведашчэня кіраваў партызанамі «Зялёнага Дуба».

Цімох Хведашчэня кіраваў партызанамі «Зялёнага Дуба».

Лёс Хведашчэні, у нечым характэрны для таго часу, усё ж такі ўражвае: вясковы хлопец з Лунінеччыны падчас Першай сусветнай робіцца афіцэрам, пасля дэмабілізацыі не кідае зброі і пераходзіць да «чырвоных». Неўзабаве падымае бунт у сваім атрадзе і пераходзіць да слуцкіх паўстанцаў, пасля — у войска Булак-Балаховіча. Ды не адзін, а разам з атрадам, які меў свой сцяг і аркестр.

Далей — круцей. Адзін з атаманаў «Зялёнага дуба», камандзір дыверсантаў, якія пераходзілі з польскага на савецкі бок у пачатку 20-х. Нарэшце крамнік і настаўнік у Белавежы. У 1944-м Цімох адступае разам з немцамі, не чакаючы літасці ад бальшавікоў. Па вайне нейкім цудам трапляе у Польскую камуністычную армію, аднак пасля выкрыцця мінулага трапляе за краты. Далейшы лёс «балахоўца» губляецца…

## Маўчалі крыжы

Айцец Аляксандр Надсан жартаўліва называе сяброў суполкі Беларуская нацыянальная памяць (БНП) «некрафіламі ў добрым сэнсе гэтага слова». БНП расшуквае і парадкуе пахаванні дзеячоў нацыянальнага руху XX стагоддзя, парадкуе магілы. Росшукамі месца апошняга спачыну атамана Цімоха Хведашчэні сябры арганізацыі займаліся не першы год. Безвынікова. Маўчалі крыжы на праваслаўных могілках у Варшаве, маўчалі архівы, ніякіх

звестак аб нашчадках афіцэра не было. І тут…

«Знайсці гэтую магілу было справай гонару, — кажа старшыня БНП Анатоль Міхнавец, — Хведашчэня быў адным з самых ідэйных змагароў за незалежнасць Беларусі, ягоны атрад вылучаўся дысцыплінай, маральнасцю і адвагай».

Балаховіч шукае Хведашчэню

«Пра Хведашчэню мы ўпершыню пачулі ад Юрыя Туронка, — кажа Міхнавец, — які ў далёкія 70-я нібыта дамаўляўся з ім пра сустрэчу. Хведашчэня меў прынесці ды перадаць свой архіў гісторыку, але нешта сарвалася.

Гадоў пяць таму ўсплыў невядомы дагэтуль партрэт Хведашчэні ў форме балахоўца, які ўжо стаў ледзь не хрэстаматыйным. Гэта толькі падагрэла цікавасць да яго асобы».

Са словаў Міхнаўца, у пошуках удзельнічаў нават унук самога Булак-Балаховіча Станіслаў Мацей: даваў у польскія раённыя газеты аб'явы з просьбамі звярнуцца ўсіх, хто мае інфармацыю пра Хведашчэню. Але зноў безвынікова.

**«Бетон»**

«Мы шукалі паўсюль: распытвалі гісторыкаў, старэйшых беларусаў з дыяспары, шукалі праз сацыяльныя сеткі, абышлі ўсе могілкі ў Варшаве, — працягвае Міхнавец, — І вось аднойчы да мяне падышоў калега па навучанні з навінoй: ягоны дзед быў знаёмы з Хведашчэнем (ці то па адседцы, ці па іншых якіх справах) і ведае нават месца, дзе той пахаваны!

Спробы даведацца нешта дакладнае вынікаў не далі, пан Анджэй пайшоў «у адмову». Ведаю, кажа, але не скажу: да магілы дагэтуль ходзяць камбатанты, а калі інфармацыя выплыве, на іх зладзяць засаду. У выніку мой аднакурснік патлумачыў мне, што ў сучаснай польскай мове існуе тэрмін «бетон» — для старых людзей, якія да гэтага часу жывуць мінулым, старымі пагрозамі, крыўдамі, небяспекамі. Гэта, на жаль, быў акурат той выпадак».

**«Chwiedaszczenia» ці «Fedoszczenia»?**

«На апошнім этапе да росшукаў далучыўся беларус з Беласточчыны, палкоўнік запасу польскага войска Юры Зюзя. Рэч у тым, што перапіска з польскімі архівамі — не такая і простая

справа. Як вайсковец, ён здолеў зрабіць паспяховы запыт у Цэнтральны вайсковы архіў.

На будучыню ў перапісцы з архівамі пан Юры параіў нам карыстацца фармулёўкай «Dlaczego nie odpowiadacie na pytanie podatnika? Czy trzeba napisać skargę do Waszego Ministra?» («Чаму не адказваеце на пытанне падаткаплатніка? Можа, трэба напісаць скаргу вашаму міністру?»)».

Выявілася, што Хведашчэня пахаваны зусім не на праваслаўных могілках Варшавы, а на Паўночных. Ды і прозвішча на надмагіллі напісана не як «Chwiedaszczenia», як мы думалі, а як «Fedoszczenia», хоць сваё фота ў форме балахоўца часоў Грамадзянскай вайны ён падпісаў акурат першым варыянтам. Можна здагадвацца, якія абставіны паўплывалі на змену гэтых некалькіх літар…

На фота, зробленым актывістамі БНП, — гранітная пліта з імёнамі двух чалавек. Па-польску. Тут пахаваныя Цімох Хведашчэня і ягоная жонка Алена з ваколіцы Белавежы, з якой разам яны ад’ехалі на Захад у 1944-м.

Першае, на што звяртаеш увагу, — гады жыцця. Ва ўсіх публікацыях побач з прозвішчам балахоўца стаяла: 1897 — канец 1980-х пач. 90-х. І тое, і другое не адпавядае напісанаму на надмагіллі. Нарадзіўся Цімох у 1893, а памёр у 1977 (да 1993 года дажыла толькі ягоная жонка). Больш падрабязных датаў, на жаль, няма.

«Што далей рабіць? — перапытвае Анатоль. — Будзем шукаць ягоных родных. Хведашчэня меў дачку, ды і помнік не стары, дагледжаны — нехта ж паставіў і даглядаў. Магіла беларускага ваяра стане месцам, дзе будуць аддаваць пашану тым, хто змагаўся, каб жыла Бацькаўшчына».

*nn.by/?c=ar&i=113899*

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»